# Даўней і цяпер



*Трактар, які хацеў зрабіць нямецкі селянін.*

* * *

Замарыўся на рабоце нямецкі селянін. Арэ і пыхкае, як паравоз. Выцер пот і падумаў.

— Пара ад мяне, як ад паравоза. А каб гэта і сапраўды запрэгчы паравоз у нашую сялянскую работу,—сядзеў-бы я тады з люлечкай на перадку ды пэхкаў-бы сабе. Араў-бы ў мяне паравоз, касіў, малаціў і веяў.

Так паўсотні год таму развакаў нямецкі селянін.

Узяў ён ды сказаў людзям пра свае думкі. Засьмяялі немца, задражнілі. Узялі ды яшчэ намалявалі яго, люлечку ў рот далі, пасадзілі на выдуманую ім машыну і, каб пасьмяяліся ўсе, у газэтах надрукавалі.

Немец гэты даўно адпачывае. Так бядак і памёр з крыўдаю на людзей.

* * *

А на колгаскіх палёх цяпер вурчыць моторам, рве зямлю пуцілаўскі трактар. Дваццаць плугоў бягуць за ім і ўсе добра аруць.

А араты сядзіць сабе на крэсьле, курыць люлечку, рулём пакручвае. І ніякага клопату— толькі-б газы хапіла да вечара.

Запражы ў трактар касарку— выкасіць. А можна паставіць трактар і малатарню ў ход пусьціць. Загудзіць машына, пачне хлеб абмалочваць. Ды ці мала якую выгаду дае селяніну трактар!



*Цяперашні трактар.*

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 11 лістапад 1930

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

## БУЛЬБУ—ПРОЛЕТАРСКІМ ЦЭНТРАМ



*У Беларусі добра родзіць бульба. Кожны год мы маем мільёны лішніх пудоў бульбы. Гэтая лішняя бульба загатаўляецца і адсылаецца ў пролетарскія цэнтры Саюзу, адкуль мы атрымліваем розныя фабрычныя вырабы.*

*На здымку—чырвоны абоз з бульбаю.*

# ЧЫРВОНЫ АБОЗ



I

Скончылася лета. З поля ўсё прыбралі. Жняяркі і касаркі пашлі на адпачынак. Цяпер у колгасе „Ленінскі Шлях“ цэлымі днямі гудзіць малатарня.

Стары дзядзька Сымон стаіць каля станка, борзда і спрытна разьвязвае снапы і кідае іх у цапы. Цапы з шумам і сьвістам латошаць пруткую, сухую салому, труць яе, жуюць сваімі жалезнымі зубамі і шпурляюць вон. Маладыя хлопцы Марцін і Якаў, потныя і расхлістаныя, стаяць абапал станка і лёгкімі грабовымі вілкамі адкідаюць мяккую салому. Гэту салому падхватваюць другія і тут-жа недалёка складаюць у вялізныя сьцірты-стагі.

Дружна і ахвотна працуюць колгасьнікі. Дзядзька Сымон увесь сівы ад пылу; на вусы, на бараду, на бровы, на чорную кучомку насыпалася поўна асьцюкоў, і дзядзька Сымон выглядае цікавым саламяным дзедам. Змахнуць пыл і асьцюкі з вусоў і барады дзядзька Сымон ня можа, бо ў яго няма для гэтай работы лішняй рукі. Спыняцца няма калі—трэба завіхацца скарэй змалаціць жыта, бо заўтра колгасьнікі рыхтаваліся наладзіць Чырвоны абоз. Вось чаму так сьпяшаецца дзядзька Сымон і ўсе іншыя.

Весела малым у час малацьбы. Няма лепшай забавы, як капашыцца ў кучах мяккай саломы, рабіць хованкі і цікавыя норы-выкрутасы. Колькі тут можна правесьці розных гульняў, мець розных прыгодаў!

Але акцябронка Юліка менш цікавяць норы і схованкі. Ён больш за ўсё каля дзядзькі Сымона ўвіхаецца. То сноп прыцягне з тарпы і разам з большымі падасьць дзядзьку, то курэй адгоніць ад малатарні. А калі спыніцца малатарня, Юлік пільна прыглядаецца да цапоў і розных шасьцерняў,— цікава, як яны так круцяцца? Адным словам, Юлік працуе і вучыцца, каб замяніць на старасьці дзядзьку Сымона. І дзядзька Сымон з павагай адносіцца да Юліка, сёньня ён нават сказаў Юліку:

— Хочаш, Юлік, з Чырвоным абозам паехаць?

Паехаць у мястэчка ды яшчэ з Чырвоным абозам—хто-ж гэта з дзяцей не захоча!

— Хачу, — адказаў узрадаваны Юлік.

— Ну, добра, — кажа Сымон,—ты паедзеш са мной на возе.

II

На другі дзень яшчэ зранку заварушыўся колгас. Сёньня вялікі дзень— колгасьнікі змалацілі свой ураджай і сьпяшаюцца лішкі хлеба здаць рабочым, якія робяць для іх машыны.

30 падвод напакавалі сьвежым жытам колгасьнікі і паслалі ў мястэчка. На пярэдняй падводзе ехаў дзядзька Сымон, а з ім Юлік. Да дугі, замест званка, прывязалі невялічкі чырвоны сьцяг.

У мястэчку Чырвоны абоз сустрэлі з музыкай прадстаўнікі ад улады і рабочыя організацыі. На гукі духавой музыкі пазьбягалася ўсё мястэчка.

Чырвоны абоз пад'ехаў да коопэратыву і спыніўся, акружаны местачкоўцамі.

Сакратар Райкому партыі ўскочыў на Сымонаў воз, зьняў шапку і загаварыў:

— Таварышы колгасьнікі! Шчыра вітаю вас з Чырвоным абозам! Вы адны з першых пасьпяшыліся выканаць свой доўг перад дзяржаваю—здалі



*Чырвоны абоз у мястэчку.*

сває лішкі хлеба пролетарскаму гораду. Рабочыя заняты на фабрыках і заводах. Яны выробляюць машыны і іншыя тавары, якімі карыстаецеся вы, таварышы колгасьнікі. За гэта ваш абавязак—здаць рабочым лішкі хлеба. Нашы ворагі—кулакі і папы—падгаварваюць беднату не здаваць хлеба дзяржаве. Гэтым яны хочуць падарваць моцны саюз гораду і колгасу, хочуць пашкодзіць разьвіцьцю і колгасаў і заводаў. Бо колгасы без заводаў і заводы без колгасаў разьвівацца ня могуць. Для колгасаў патрэбны плугі, трактары, жняяркі, касаркі... А дзе гэта ўзяць?—На заводзе! За тое колгас павінен як мага і чым мага падтрымліваць і завод, трымаць з ім цесную сувязь.

Няхай жыве цесны саюз гораду з колгасам! Няхай жывуць Чырвоныя абозы!

Музыка падхапіла яго апошнія словы, а ўсе зьнялі шапкі.

Пасьля сакратара Райкому гаварылі яшчэ рабочыя з мясцовай лесапільні і старшыня колгасу.

— Ну, — запытаў дзядзька Сымон у Юліка, калі ссыпалі жыта, — цяпер гайда дахаты, малаціць новы хлеб. Будзеш памагаць?

Юлік ускочыў на воз, вясёлы і шчасьлівы.

— Буду, буду! Цяпер будзем малаціць авёс і я буду ня горш за другіх падаваць табе снапы. А як намалоцім больш—зноў частку павязем рабочым, зноў наладзім Чырвоны абоз? Праўда, дзядзька?—лепятаў Юлік.

— Праўда, праўда, — кажа дзядзька, — як намалоцім—зноў пусьцім другі Чырвоны абоз, у даўгу перад рабочымі не застанемся.

А. І.



# ПРАЦАВАЛІ ПА-ЎДАРНАМУ



Піонэры і вучні ў час уборкі ўраджаю дапамагалі колгасам. Яны ішлі ў колгас, зьбіралі там ураджай, насілі снапы, дапамагалі малаціць, складалі салому, чысьцілі насеньне.

З Воршы ў раёны было паслана 500 піонэраў і вучняў на працу ў колгас.

Піонэры і вучні Аршанскай фабрычна-заводзкай сямігодкі былі накіраваны ў колгас „Чырвоны Прамень“ (каля Асінбуду). Тут дзеці паказалі колгасьнікам сапраўды ўдарныя тэмпы працы: за некалькі дзён з палёў колгасу быў сабраны лён і абмалочана частка збожжа. Ачышчана насеньне, салома зложана ў стагі, сабраны і падрыхтаваны мяшкі для збожжа.



*НА ЗДЫМКАХ: зьверху—складаюць стог; зьнізу—чысьцяць збожжа.*




*Апавяданьне УС. ШЫДЛОЎСКАГА.* *Мал. А. ТЫЧЫНЫ.*

Была позная восень... Кожную раніцу замаразкі моцна скоўвалі гразь, а ў паветры лёталі ледзь прыкметныя пушынкі сьнегу.

У колгасе ўжо даўно ня чуваць было пастуховай трубы і каровы стаялі ў вялізарнай старой аборы.

Юзікаў бацька кожны дзень даглядаў колгасных кароў. Сена прыносіў з клуні, паіў і засыпаў сечку ў карыты.

Юзік траха ня кожную раніцу ўставаў разам з бацькам, хутка апранаўся і ішоў з ім у абору. Там ён памагаў бацьку разносіць сена каровам і выграбаў з карытаў недаедзеную сечку.

Пасьля гэтага Юзік сьнедаў і бег у школу. Любіў Юзік школу. Настаўнік часта хваліў яго за тое, што добра чытае і, часамі, гладзіў яго па галаве. Тады Юзік быў вельмі рады і шчасьлівы.

Аднойчы пашоў Юзік у абору і заўважыў, што ўсе каровы стаялі згорбленыя і дрыжалі ад холаду. Кругом праз шчыліны дзьмуў вецер. Панура, апусьціўшы галовы, каровы жавалі жвачку.

Тут Юзік адразу ўспомніў учарашнія словы настаўніка, што каровы ад холаду мізарнеюць і многа менш даюць малака. Настаўнік казаў, што трэба перад пачаткам зімы ўцяпляць колгасныя аборы...

Юзік надумаўся адразу ўзяцца за справу.

Ён паклікаў яшчэ двух сяброў, Янку і Петрыка, і яны дружна ўзяліся за працу. Янка дошчак прынёс, якімі забілі ўсе дзіркі, потым абаткнулі іх саломай, каб вецер ня дзьмуў у хлеў.

Агледзеўшы дзіркі, хлопцы пашлі да старшыні колгасу і сказалі, каб ён прарэзаў вокны ў аборы і ўставіў шыбы.

Старшыня колгасу зьдзіўлена глядзеў на хлопцаў і не разумеў, у чым справа.

А Юзік настайваў:

— Трэба канешне прарэзаць вокны; каровам таксама патрэбна сьвятло.— Урэшце старшыня згадзіўся з Юзікавай парадай і паслаў у абору на работу колгасьнікаў. Увечары аборы не пазнаць было. Зусім зьмянілася.

І калі назаўтра Юзік пашоў у абору—каровы стаялі вясёлыя і рахманымі вачыма ветліва глядзелі на Юзіка. Там было сьветла і цёпла.

Хвалілі колгасьнікі Юзіка, а настаўнік у школе запісаў яго на чырвоную дошку.



# Ударнік Мікітка

*Верш А. Ч.* *Малюнкі РОЗАНАВА*

Быў сабе,
Жыў сабе
Гультай Мікітка.
Сам мурзаты,
Брудная сьвітка.
Хадзіў ён у школу
Зусім невясёлы.
У школе ня вучыўся—
Дурэў і біўся.
Кніжкі і сшыткі
Падраныя ў Мікіткі.
Сам ён ня мыўся,
Лаяўся брыдка.
Вось якім быў Мікітка!

* * *

Ї сказалі ў школе:
Мікітка гультай!
Ня можам болей





Трымаць яго ў школе!
Каб гультайства суняць,
Трэба бацьку сказаць...

* * *

Ї прышоў дахаты
Крыху сумнаваты
Гультай Мікітка.
У запечак злосна
Кінуў ён сьвітку.
Сам-жа, як млосны,
Па хаце сланяўся,
Кудысь углядаўся,
Ї думаў думу—
Што рабіць яму?
Кепская слава
Хлопцам набыта...
Сеўшы на лаву,
Заплакаў Мікіта.
— Які цябе злыдзень
Гэтак пакрыўдзіў?

Чаго табе не хапае?—
Бацька пытае.
Апусьціў Мікіта
Вочы сярдзіта,
І усё па-парадку
Расказаў ён татку.
— Кепска, Мікітка,
Робіш ты брыдка,
За цябе мне сорам!—
Кажа бацька з дакорам.—
Нам непатрэбна
Цяпер гультаёў!
Каб болей ня чуў я
Гэтакіх слоў!
Бо кожны лодыр
Прыносіць шкоду.
Гультайскай работай
Мы ня збудуем
Колгасаў,
Заводаў...

* * *

Ходзіць Мікітка ў школу
Ахвотны, вясёлы.
Ён—піонэр атраду







І ударнік
Ударнай
Брыгады.
Многа работы
Цяпер у Мікіткі:
Сачыць, каб чыстыя
Былі сшыткі,
Не пазьніцца на заняткі,
Усё рабіць
Акуратна і гладка,
Слухаць уважна,
Што настаўнік кажа,
Змагацца са шкоднікамі—
Другагоднікамі...
— Брыдка ленавацца,
Брыдка!—
Кажа гультаём
Мікітка.
У школах,
Колгасах,
На заводзе
Гультаі толькі шкодзяць!
— Прэч гультайніцтва!
Няхай жыве ударніцтва!




**Апавяданьне Цішкі Вернага.**

Вельмі любіў Алеська езьдзіць на трамваях. Вось і зараз ідзе ён першы раз са школы, за плячыма торбачка з кнігамі, а сам усё думае, як-бы гэта папасьці на трамвай. Грошай-жа, каб купіць білет, няма.

— Мо‘,—думае ён,—як-небудзь „зайцам“ удасца праехаць. А сам на міліцыянэра глядзіць, каб той ня ўбачыў, калі Алеська ўскочыць.

Нарэшце, з-за павароту вуліцы звоніць трамвай. Усе людзі, што чакалі, кінуліся ўперад. Хапаюцца за ручкі, крычаць, штурхаюцца. Міліцыянэр пашоў да дзьвярэй наводзіць парадак, а Алеська гэтым часам у другі бок забег і прымасьціўся ззаду на буфэры. Моцна ўхапіўся рукамі за жалеза, а сам дрыжыць, баіцца, каб міліцыянэр ня ўбачыў, або хто-небудзь з знаёмых, бо вельмі сорамна будзе.

Калі ўсе паселі, трамвай крануўся. Алеська вольна ўздыхнуў. Але міліцыянэр убачыў яго. Сьвіснуў, трамвай спыніўся. Алеську моцна тузанула. Ён стукнуўся галавою аб сьценку трамваю і ўпаў на брук.

У галаве зазьвінела, млявасьць ахапіла ўсё цела, але ён узгробся і кінуўся наўцекі. Прабег з пера-

палоху колькі шагоў, і папаўся пад калёсы балагола... Цяпер Алеська ўжо ня ўстаў.

Вакол яго сабралася шмат народу, але ён ужо нікога ня бачыў, нічога ня чуў.

— Ах, бедненькі хлопчык!

— Арыштаваць балагола!—крычалі людзі.

Адна дзяўчынка-піонэрка пабегла ў аптэку і пазваніла ў больніцу.

Адтуль зараз-жа прыехала „хуткая дапамога“ і забрала Алеську.

Пралежаў Алеська ў больніцы тыдзень, а потым пашоў у школу.

У школе яго чакаў нежаданы падарунак. У насьценгазэце была зьмешчана гісторыя пра здарэньне з Алесем. Допіс канчаўся такімі словамі:

— Не рабеце, таварышы, так, як робіць Алеська, не калечце, не ганьбуйце сябе. Калі жадаеце праехаць на трамваі, папрасеце ў сваіх бацькоў грошы, а „зайцам“ езьдзіць няможна, бо праз гэта можна загінуць.



# На гародзе

*Апавяданьне Л. ЧАРНЯЎСКАЙ* *Малюнкі РОЗАНАВА*

Восень сыпала дажджом. То ліўся ён па цэлых днях струменямі, то сеяўся мокрым шэрым пылам.

І здавалася: канца ня будзе макраце і гразі.

Але, нарэшце, пад вечар аднаго дня, прагнаў вецер клубкі хмараў і назаўтра сонца ўсьміхнулася з самага раньня.

Надвор'е ўстоілася яснае, ціхае. Сонца слала напасьледкі ласкавую цяплыню на намокшую зямлю, лёгкі вецер сушыў яе.

Тады заварушыліся на гародах людзі. Борзда працуюць. Трэба справіцца за гэтыя ясныя дні прыбраць усю гародніну.

Шырока пад горадам раскінуліся колгасныя гароды. Пасадзілі ўвесну многа, зарадзіла добра,—цяпер каб толькі сабраць у пару. Надта-ж затрымалі работу зацяглыя дажджы.

Сваёю сілаю ня ўправяцца колгасьнікі. Але нічога... Валіць ім на дапамогу маладая сіла.

Ледзь толькі ўзьнімецца сонца над кругавідам, калі ў паветры яшчэ пахне маразяным туманом, калі яшчэ крэпнуць рукі ад сьцюжы, па вуліцах плывуць ужо гуртам вучні.

Вось трэцяя кляса адной школы. Сабраліся на школьным панадворку, лічацца, ці ўсе прышлі, крычаць, шумяць ад чыстага сэрца, бо хутчэй хочацца ісьці, ногі не стаяць на месцы.

Нарэшце рушылі. Бягуць на спатканьне тыя, што крыху заспаліся, і рады яны радзенькі, што ня дужа і запазьніліся.

— А дзе-ж гэта наша ўдарніца, Валынец Зоська?—пытаецца Юзік Бараноўскі.

— Нешта заспалася наша ўдарніца...

— Ай, дзяўчаткі!—зараз-жа засыпала словамі гаманлівая Магда Мяцельская.

— І як гэта я забылася расказаць. Я-ж забягала па Зоську. Я да іх у хату, а яна там з маткай ваюе. Яе матка нізашто

ня пушчае. „Будзеш,—кажа,— толькі чаравікі таптаць. Гэта ня вучэньне. І замкнула ў шафе Зосьчыны чаравічкі і паліто. Зоська ў плач, а я пабегла, бо спазьніцца баялася... І як гэта я забылася расказаць адразу?

Дружна тупаюць ногі па бруку, і кароткай здаецца дарога.

Перайшлі праз палатно чыгункі, а там зараз і поле, і колгасныя будынкі віднеюцца.

Калі ўжо ўваходзілі на колгасны двор, дагнала дзяцей запыханая Зоська Валынец. Была



яна ў нейкім зашмальцаваным паласатым жакеце з закасанымі рукавамі, на нагах шлёпалі вялікія, не па яе мерцы, старыя, стаптаныя бацінкі.

Пакуль настаўніца хадзіла шукаць старшыню колгасу, каб ён вызначыў месца, дзе станавіцца на работу школьнікам, Зоська, ледзь зводзячы дух, апавядала:

— Уцякла... праз вакно. Мама ня пускала... Зачыніла ў шафе мае чаравікі і паліто, наказала мне, каб я не пасьмела ісьці босая. Потым яна хату на ключ, а сама на рынак пашла. Я сабе думаю: найду-у абутак, абуюся ў што прыдзецца. Братавы боты памерыла, дык халявы дужа доўгія. Хацела была новыя маміны чаравікі абуць... Так, на злосьць, а потым адумалася. Убачыла вось гэтыя атопкі, усунула ў іх ногі, вязанку на плечы і наўцекі праз акно... Бегла-ж я, бегла, добра хоць, што дарогу сюды ведала. Атопкі гэтыя з ног скідаюцца, каб на іх ліхачка! Мама-ж абутай мне не забараняла ісьці...—засьмяялася Зоська і пашавяліла праз дзірку ў бацінку пальцам наназе.

— Гляньце, гляньце, як мой пальчык цешыцца, што вас убачыў. Гляньце, вітаецца: добры дзень, добры дзень...

Вярнулася настаўніца разам з барадатым дзядзькам, старшынёю колгасу.

Ен кажа дзецям:

— Хадзем, дзеткі, на бурачнае поле. Пакажу вам з якога канца капаць, дзе ў кучы складаць.

— А каб ты нас, дзядзечка, туды завёў, дзе морква ці рэпка сядзіць,—уставіў сваё слова Арсенька Лабанок, майстра лазіць па ўсіх садох і гародах, і падміргнуў двум сваім дружакам: Стасю Нажынскаму і Віцьку Сьмірнову.

— А-ха-ха!..—зарагаталі тыя ў адказ.

— А то-ж, — усьміхнуўся дзядзька,—вы-б там завінуліся.

Узышлі на гарод. Вялікія кармавыя буракі сядзелі наверсе, амаль што зусім вывернуўшыся з зямлі, і цягаць іх было лёгка.

Дзеці ў парадку рассыпаліся па барознах і хоць сіла то ў кожнага паасобку была малая, затое ахвота была вялікая.

Адны цягалі буракі з зямлі, другія церабілі іх, абразалі націну і складалі абчышчаныя буракі ў адзін груд, націну—у другі...

Арсенька працаваў з вялікаю прынукаю, затое рабіў выгляд, што вельмі стараецца. Калі цягнуў бурак з зямлі, крахтаў, ледзь не стагнаў. Трымаючы яго ў руцэ, думаў: „ну якая мне з яго карысьць. Вось морквінку ці рэпінку жыва-б схрумстаў“.



Ён пачаў азірацца па бакох. Разважаў: „Які-ж бы гэта быў гарод, калі-б на ім не расла морква ці рэпа“. Няўзнак прысунуўся ён да сваіх сяброў. З іх такія-ж работнікі, як і ён.

— Арсенька,—зашаптаў Віцька,—зірні ў той бок. Бачыш, націнка зялёненькая. Мусіць, там рэпка...

— А мусіць... ходу, хлопцы!?

Зіна Сапрун парэзала сабе палец і ўсе прыпыніліся, каб паглядзець, ці дужа то яна парэзалася.

— Глупства, — кажа Зіна,— пайду вось у саджалцы прамыю.

— На табе, Зіна, чыстую анучку,—адгукнуўся Валька Тамашэўскі. Мне мама дала,—думала, можа я парэжуся. Аддзяры палавіну...

Зьвярнуўшы ўвагу на Зіну, заўважылі, што няма славутае тройкі: Арсенькі, Віцькі і Стася.

— Дзе-ж яны? Гляньце!..

Збоку, за некалькі гоняй, прыгнуўшыся да зямлі, завіхаліся хлапчукі ля рэпы.

— Схадзеце-тка па іх!—азвалася настаўніца.—Гукнеце іх працаваць. Вось ідзі ты, Роза...— азірнулася і выбрала поглядам,— і ты Юзік...

Хлапчукі так заняліся, што не пачулі, як да іх падышлі Роза Рэйзіна з Юзікам Бараноўскім.

— Што, смашная рэпка?— спыталася Роза.— Гультаі вы, гультаі... Мы ўсе працуем, а вы дзе гэта? Ах, як сорамна...

Хлопцы аж падскочылі ад нечаканкі, але Арсенька адразу адказаў:

— Дурная ты... Вядома, што смашная... На, пакаштуй, Юзік. Хочаш, цэлую рэпінку абчышчу.

— Ідзеце ўжо, ідзеце працаваць!—загневаўся Юзік. —Хадзіць яшчэ па вас трэба. Ну-у, падганяць хіба вас...

Арсенька заўважыў, што настаўніца накіравалася ў іхны бок.

— Ідзем-жа—з неахвотаю сказаў ён і з жалем у голасе дадаў:— А і дурныя-ж вы, Розка і Юзік! Шкода вам колгаснае рэпы...

— Так, на тое яе садзілі, каб вы глумілі? А сам то хваліцца будзеш: я ў колгас хадзіў працаваць... Чакайце, чакайце, я пра цябе, Арсенька, і пра вас,—кажа да Віцькі і Стася,— пра ўсе вашыя штучкі ў насьценгазэту напішу.

— А—ей! То ўжо напалохала!—задаваўся Арсенька. Пішы, пішы, я падказваць буду...



І каб паказаць, што яму сапраўды малы страх, ён засьвістаў.

Узялася і настаўніца за нашу тройку. Маўчалі хлопцы. Апраўдацца нечым. Паглядалі на гарод. Праўда, пакуль яны там бавіліся, які вялікі кавалак поля дзеці падчысьцілі.

Яшчэ адна кляса прышла на зьмену.

Тыя, што дагэтуль працавалі, гуртам кінуліся да саджалкі мыць рукі, абтрасаліся ад пылу. Вясёлыя, чырвоныя, запрацаваныя паказвалі новым цэлыя горы свае працы.

Ізноў дружна затупалі ў парах ногі. Пацягнуліся гуртам назад у горад.

Ужо ў горадзе Арсенька падблізіўся да Розы і сказаў:

— Ты, Роза, слухай... Ты ў газэту ня пішы. Пабачыш, што я такіх штук больш ня буду рабіць. Вось пабачыш...

---

Якуб Колас

# ПІОНЭРАМ

**Шлях паказан вам шырокі,**
**Шлях пласторны,**
**Сьветлы, зорны,**
**Дык наперад цьвёрдым крокам,**
**Шум вясеньні, яснавокі!**
**Дзеці волі, дзеці буры!**
**Ваша раньне—**
**Бой, змаганьне:**
**У кастрычніцкай віхуры**
**Карані вашай натуры—**
**Быць гатовым, дружна крочыць,**
**Сямімільна!**
**Зьвеньні, шчыльна!**
**Вышэй сьцяг трымаць рабочы!**

13/XI-30 г.



# ПАЛЯВАНЬНЕ НА КАЧАК.



Прышла восень. Мы з дзедам Лявонам рушылі на паляваньне.

Сярод лесу ёсьць вялікае балота. Там заўсёды многа качак.

Дзед Лявон аглядзеўся кругом ды і кажа:

— Вунь узьнялася...

— Дзе?

— З возера.

А праз хвіліну дзед весела закрычаў:

— Унь глядзі, глядзі, як цёмная хмара!..

— Вось дык качак!—зарадаваўся я.

Мы падышлі да таго возера.

— Ну, не змарыўся?—пытаецца дзед. Твар у Лявона сьвяціўся шчасьлівай радасьцю.

Памаленьку, сагнуўшыся, падышлі мы да канавы, якая ўся зарасла густым аерам.

Дзед Лявон узьнімаецца, выцягвае шыю і ўглядаецца.

— Ёсьць,—кажа ён.

— Дзе?—пытаюся я. Стрэльба ў маіх руках затраслася і траханя выкінулася.

— Ды вунь, на тым баку канавы, каля карча.

— Бачу, бачу,—кажу я.—Страляць?

— Страляй, ды толькі не прамахніся.

Грукнуў стрэл. На канаве затрапяталася качка.

— Маладзец, Сьцёпка,—кажа дзед Лявон,—добры з цябе паляўнічы будзе.

Радасьці маёй ня было краю. Гэта-ж першы раз у жыцьці я застрэліў качку!

Вучань **А. Дашкевіч.**




*Апавяданьне вучня КАРАТКЕВІЧА*

Па рэчцы плавалі і купаліся гусі. На беразе рэчкі, пад кустом, у зацішку ад асеньняга ветру, расклаўшы агонь, сядзелі хлопцы. Цэлы дзень яны сядзяць тут каля агню, пасучы гусей. Патрэскваюць сукі на агні, адкідаючы ў бок чырвоныя іскры.

— Слухай, Кастусь,—загаварыў сямігадовы Юрка да свайго таварыша Кастуся,—калі ты ідзеш адзін вечарам па лесе, дык ты баішся ваўкоў?

Кастусь, які лічыў сябе старэйшым за ўсіх чатырох хлопцаў, адклаў у бок сьпечаную бульбінку, выцёр з губ попел і адказаў:

— А чаго баяцца? Воўк-жа чалавека без патрэбы не зачэпіць. Ды я самастрэл у кішэні пастаянна нашу, калі што якое, дык як гакну...

— Ведаю я твой самастрэл,— пажартаваў Цішка,—як па вадзе пугай.

— Няпраўда! — не здаваўся Кастусь, — калі натрэш шмат серкі, ды добра патрапіш выцяць, дык так гакне, што аж у вушшу зазьвініць. Вось дай сярнічак, дык пачуеш, як гакну.

— У мяне няма, у Сяргея дык цэлы пачак,—адказаў той.

— Ну дай ты, Сяргей!

Сяргей, белагаловы, шырокі з твару хлопец, зьняў шапку і выняў сярнічкі. Неўзабаве Кастусёў ключ быў повен серкі. Як ніколі, Кастусёвы рукі калаціліся ад радасьці, што вось ён дакажа свой спрыт у стральбе.

— Бі аб пень,—параіў Юрка.

— Аб пень дрэнна, лепш аб камень,—не згадзіўся Кастусь.

— Ну, на камень, — сказаў Сяргей, кідаючы на зямлю вялікі камень.

— Уцякайце-ж, а то аглушыць,—папярэдзіў Кастусь, падыходзячы да каменя.

Сяргей адбегся і глядзеў з-за пня то на Кастуся, то на яго самастрэл.

— Куды ты засланіў, нічога ня відаць, — крычаў Юрка на Цішку з-пад елкі.

— Ну, дык мне зараз ня відаць,—пачуўся голас Цішкі.

— Ціха вы, а то падыду ды як грукну, дык будзеце ведаць, — пагразіў Кастусь.

Вось ён нагнуўся над каменем, адвёў руку з самастрэлам уперад. Заплюшчылі вочы хлопцы з-пад елкі, а Сяргей заткнуў вушы пальцамі.

— Раз!.. Два!.. і на слове „тры“ Кастусь выцяў плешкай цьвіка, які другім канцом увахо-дзіў у дзірку з серкай, аб камень.

— Гак — цык! — адгукнулася балота.

— З-пад елкі выскачыў Юрка з Цішкам, з-за пня бяжыць Сяргей. Усе гуртам да Кастуся, а той моўчкі стаяў і цёр кулаком вока.

— Ну і гакнула-ж, аж у вушшу зазьвінела, — сказаў Юрка, трымаючыся рукою за штаны, у якіх вырваўся гузік.

— А я дык вушы заткнуў,— дадаў Сяргей,—дык мне і нічога.

Кастусь моўчкі пашоў да рэчкі.

— Куды ты?—запытаў Юрка.

Кастусь не адказаў.

— Ён-жа плача!—ціха прамовіў Сяргей.

— Глядзеце, разарвала, — і Цішка падняў з зямлі разарваны ключ.

— Чаму-ж не разарве, калі повен серкай набіты, — дадаў Юрка.—А ведаеце, хлопцы, ці не папаў гэта асколак ключа ды яму ў вока, бо чаму гэта ён яго трэ і плача?

— Напэўнэ, папаў,— адказаў Цішка.

Так і сталася. Кавалак ключа папаў Кастусю ў вока.

— Ну, што?—сказаў бацька да Кастуся, калі той увайшоў у хату,—дайграўся? Чаго хацеў, тое і маеш. Вось вазьму папругу ды адлупцую, што называецца, так, каб цэлы тыдзень чухаўся!

І больш ні слова. Бацька Кастусёў—строгі і сярдзіты.

Моўчкі вышаў Кастусь з хаты.

— Куды ты, сынок! Вярніся, ня бойся таты, — угаварвала маці.—Кастусь вярнуўся.

Не дапамаглі розныя лекі. Кавалак ключа моцна ўпіўся ў рагавіцу вока. Так і застаўся Кастусь аднавокім.



# НЭГРЫК ЯЛІНГ

*Апавяданьне Н. ГЛОБА-МІХАЙЛЕНКО*

*Малюнкі К. Ц. КУЗЬНЯЦОВА*



Далёка ад нас, на поўдзень, у гарачай Афрыцы, дзе цэлы год бывае лета, ёсьць краіна Конго. Там жывуць нэгры. У мінулыя часы яны жылі спакойна, займаліся паляваньнем і земляробствам, пакуль сярод іх не пасяліліся белыя людзі, эўропэйцы—французы, бэльгійцы, португальцы.

Конго вельмі багатая краіна. У яе вялізарных густых лясох (джунглях) растуць бяз жаднага догляду каштоўныя расьліны—бананы, фінікі, апэльсіны. На палёх добра расьце рыс і бавоўна, а пад зямлёй знаходзяцца багатыя скарбы медзі і золата.

Усе гэтыя багацьці белыя пачалі забіраць у сваю карысьць. І мала таго, што яны грабяць нэграў, адабраўшы ў іх зямлю, яны ўсякім чынам прыгнятаюць жыхароў, прымушаюць іх цяжка працаваць. Белыя б'юць нэграў за кожны нікчэмны ўчынак. Нават, калі хто заб'е нэгра, дык за гэта не караюць, усёроўна, што забіць, малпу. І суд белых людзей ніколі ня судзіць белага за забойства нэгра.

Каб вывозіць з Конго ўсе адабраныя ў нэграў багацьці, французы будуюць чыгункі. На гэту пабудову гоняць нэграў тысячамі, разбураючы іх вёскі. У Конго нэгр—не рабочы, а нявольнік. За работу яму нічога ня плацяць, толькі кормяць і то вельмі дрэнна, а больш б'юць палкамі і бізунамі.

Нэгры ўцякаюць ад белых у джунглі і будуюць там свае пасёлкі. Але белыя сочаць за імі, нападаюць на пасёлкі і вядуць усіх мужчын на пабудову „машыны“,—як завуць нэгры чыгунку.



Мы раскажам тут гісторыю маленькага нэгрыка Ялінга. А ў Конго такіх дзяцей тысячы.

## I. Ялінг і „машына“.

Маленькі Ялінг жыве ў далёкай вёсцы ў лесе. Ад ракі Конго да яе трэба ісьці тыдні тры праз густыя джунглі. У вёсцы дзесяткі два шалашоў, а пасярэдзіне ляжыць вялізарны барабан, зроблены з драўлянай калоды і абцягнуты шкурай. Гэты барабан для нэграў тое, што для нас пошта ці тэлеграф. Б'юць па ім палкаю, і рэзкі гул

„гу-ду-ду“ нясецца на дваццаць кілёмэтраў праз джунглі. Гэтым гулам барабана нэгры паведамляюць суседзям аб усякай бядзе. Паведамляюць яны і аб тым, што прышлі белыя і што трэба ўцякаць ад іх.

Нэграм нядоўга пабудаваць вёску на новым месцы. Знойдуць у джунглях прагалак; мужчыны расчысьцяць яго, зрэжуць пальмы; жанчыны наб'юць кольля для шалашоў, заместа страхі, накладуць пальмавага гальля. Дзеці наплятуць з травы рагожы, павешаюць на калох збоку, і сьцены гатовы.

У такім-жа шалашы жывуць Ялінг з маткаю, жывуць яны адны з таго часу, як бацьку забралі белыя на „машыну“. А што такое гэта страшная машына, якая забірае бацькоў у маленькіх нэграў, нават старшыня вёскі ня можа растлумачыць. Усе толькі ведаюць, што „машына“—гэта такое месца, адкуль нэгры не варочаюцца.

## 2. Калі грыміць „гудуду“.

Сягоньня Ялінгу сумна. Яго таварыш Хэці ня вышаў гуляць. Уночы была навальніца, і шалаш Хэці растрэсла па зямлі. Маці лаецца, а Хэці ўвесь дзень зьбірае калы і ўбівае іх у мяккую зямлю.

Ад такога гора Ялінг спрытна ўзьлез па сьцяблу маладой фінікавай пальмы і пачаў адрываць фінікі.

— Гу-гуд-гу-ду!..—загрымела раптам па лесе.

„У, праклятае „гудуду“ зараўло,—са злосьцю падумаў Ялінг, злазячы ўніз. — Зноў якая-небудзь бяда“...

## 3. Уночы ў джунглях.

„Гудуду“ напужала ўсю вёску. З шалаша ў шалаш бегалі жанчыны і старыя, і аб нечым раіліся. Блішчастыя факелы засьвяціліся паміж хаткамі, плач і крыкі напаўнялі паветра.

— Ты тут?—крыкнула маці Ялінга, схапіўшы яго за руку.—Бяда! Ідуць белыя. Убачаць, што ў нас няма старэйшых, узлуюцца і спаляць нас жывымі. Уцякаць трэба.— І яна кінулася ў сваю хату зьбірацца ў дарогу.

А неўзабаве ўсе выходзілі ўжо ў глуш джунгляў, кідаючы хаткі і пасевы, нясучы з сабою бедныя прыпасы і некаторыя хатнія рэчы.



## 4. На пошукі бацькі.

У апусьцеўшым пасёлку белыя бегаюць, падпальваюць сухія з пальмавага лісьця стрэхі, лаюцца:

— Уцяклі, чэрці чарнамазыя!..

А зьверху з пальмы за імі сочыць Ялінг, які ўцёк ад маткі.



Ён парашыў схавацца ад яе, каб ісьці шукаць свайго бацькі.

Атрад белых павярнуў у другі бок. Усьлед за белымі шугае полымя пажараў. А па сьлядох атраду ціха крадзецца па зарасьніку Ялінг.

„Я буду ісьці па іх сьлядох, буду шукаць бацькі,—думае ён,—бо бацька ня ведае, куды ўцяклі нашы з вёскі. Трэба яму сказаць. І тады мы разам з бацькам вернемся да сваіх“.

Кепская дарога між калючых кустоў. Паранілі яны ўсю сьпіну Ялінгу, і ад голаду пакутуе хлопчык. Пакуль атрад адпачывае, Ялінг шукае карэньняў у зямлі, якія можна есьці, лезе на пальму і зрывае фінікі.

Каля шырокай ракі атрад сеў на лодкі і паехаў, а галодны і зморааны Ялінг паваліўся на пясок і заснуў, як забіты. Удар нагою разбудзіў яго.

Над ім стаяў незнаёмы белы чалавек.

— Гэй, уставай, чарнамазае чарцяне! —сьмяяўся другі белы, што сядзеў у лодцы. —Кідай яго, Жан, сюды ў лодку, ён будзе мне слугою.

Ялінг маўчыць, гледзячы на белых. Ён не разумее чужой мовы.

— Ідзі да гаспадара,—крычыць Жан і кідае яго ў лодку.

## 5. Ялінг у гаспадара.

Цяжка ўнаравіць новаму гаспадару. А работы па горла з раніцы і да вечара. Ялінг цягае ваду, чысьціць боты, абмахвае веерам гаспадара.

Цяпер Ялінг ведае, што такое „машына“. З узгорку, на якім стаіць палатка белага, ён бачыць бераг ракі, дзе працуюць сотні нэграў, цягаючы на плячох вялізарныя бярвеньні для пабудовы мосту.



Сярод нэграў бегаюць белыя з бізунамі і б‘юць чорных. Іншы раз град udaраў бізуна зьбівае з ног нэгра.

Аднойчы Ялінгу ўдалося цішком зьбегаць уніз да берагу. Тут ён убачыў дзьве вялізарныя зьмяі, і замёр ад страху. Але „зьмеі“ не варушыліся. Тады Ялінг ціханька падпоўз да іх, крануў іх і засьмяяўся: „Няжывыя“.

А вечарам нэгр — повар гаспадара, растлумачыў яму, што гэта ня зьмеі, а рэйкі. Па іх ходзіць „машына“.

## 6. „Даволі!“

Адзін раз белыя селі ў лодку і паплылі ўверх па рацэ. Ялінгу Жан сярдзіта сказаў:

— Ты глядзі, з палаткі—ні шагу, а не, дык заб‘ю, як вярнуся.

І хочацца пабегчы Ялінгу пашукаць бацькі, і боязна Жана. Стаіць ён каля палаткі, а ўнізе, каля ракі, нейчы сярдзіты голас крычыць без перадышкі.

— Раз! Аля!.. Раз!—і праз увесь час чуваць сьвіст бізуна.

Ялінг ціханька падсунуўся да краю адкосу і заглянуў уніз. Там, каля берагу ракі, ляжала доўгае бервяно. Сотні людзей ухапіліся за яго і цягнуць у раку.

— Чэрці чарнамазыя!—крычыць, стоячы на бервяне, белы чалавек, размахваючы бізуном.—Я вас, гультаёў! Цягнеце!

І бізун сьвішча ў паветры, апускаючыся на чорныя сьпіны. Чорныя людзі падаюць каля бервяна. На іх месца падганяюць бізуном новых, а тыя крычаць і стогнуць. А бервяно ні з месца. Ялінг дрыжыць і плача, гледзячы ўніз з узгорку на бедных нэграў.

Але раптам адзін з чорных ускаквае на бервяно і кулаком зьбівае з ног белага.

На міг усё заціхае, а потым чутны крыкі, і ўсе чорныя імчацца ад ракі з крыкамі:

— Даволі! У джунглі!

Белыя апамяталіся. Пачуліся стрэлы...

Але чорных многа. Адны падаюць, але сотні ідуць наперад, зьмятаючы на сваім шляху белых.

Натоўп з гулам імчыцца ў джунглі, а ўсьлед за імі і Ялінг.

Расьце і шырыцца чорны натоўп, і крыкі: „Дамоў! Дамоў!“— гусьцеюць навокала ракі.

Сонца заходзіла, калі Ялінг, разам са сваімі, пралазіў праз кусты. А навакол грымела ўжо трывожнае „гу... гу... гуду“... „Уцякайце—крычала „радыё“ джунгляў,—уцякайце далей, у самыя дзікія месцы. Белыя будуць спаганяць“.

А радыё белых паведамляла па гарадох: „Паўстаньне нэграў, зьбірайце войска, выступайце ў паход супроць чорных!“



# Што такое інкубатар

Хатняя птушка прыносіць карысьць ня толькі тым, што яна дае добрае мяса, пяро, пух, яйца. Хатняя птушка хутка плодзіцца. Нашы гаспадыні выводзяць курэй праз наседку (квактуху). Пад наседку можна падкладваць ня больш 13—15 яец. За вясну наседкамі можна вывесьці да 50 штук куранят.

У дробнай асобнай гаспадарцы выводзіць больш курэй нельга—там няма добрага памяшканьня, кепскі догляд і інш.

Зусім другое ў колектыўнай гаспадарцы. Тут можна выводзіць многа птушак. Лягчэй гэта зрабіць праз інкубатар. Колектыўна купіць інкубатар лягчэй, колектыву дзяржава дае пазыку, каб купіць такі інкубатар.

Што такое інкубатар?

Інкубатар прадстаўляе сабою простую скрынку на ножках, падобную на маленькую кухонную шафу.

Гэта шафа зроблена з дошчак, шчыльна паложаных адна на другую.

Інкубатары робяцца на фабрыках розных памераў. Яны бываюць на 30, 60, 100, 500, 1000, 3000 і больш яец. У саўгасах і буйных колектыўных гаспадарках ёсьць інкубатары на 15000 яец і больш.

Наседка выводзіць куранят праз 21 дзен. Гэтак сама праз 21 дзень выходзяць кураняты і з інкубатара.

За адным такім інкубатарам можа даглядаць толькі адзін чалавек. А ўявеце, колькі трэба мець курэй і людзей для догляду, каб праз наседак вывесьці 15000 куранят?!

Інкубатар займае невялікае месца. У гэтым памяшканьні трэба, каб ня было холаду, каб ня было вялікага сьвятла, каб была належная вільгаць і сьвежае паветра.

Інакш яйкі будуць высыхаць.

Праз інкубатар выводзяць куранят з паловы сакавіка і да чэрвеня месяца.

Яйкі для закладкі ў інкубатар павінны быць сьвежыя і чыстыя.



*Інкубатар.*

Дробных яек класьці ў інкубатар зусім непатрэбна. Лепшымі яйкамі на племя будуць ад птушак, якія ўжо другі год нясуцца.

Выбраныя яйкі кладуцца ў інкубатар з якой-небудзь паметкай на адным баку, бо іх трэба будзе варочаць, каб правільна разьвівалася кураня.

У інкубатары павінна трымацца цяпло ў 35—38 градусаў. Скрынкі кожны дзень пяць хвілін павінны праветрывацца. Яйкі таксама кожны дзень трэба варочаць з аднаго на другі бок. Праз сем дзён яйкі трэба пераглядзець, выкінуць кепскія і праз 15 дзён пераглядзець апошні раз. На іх месца можна закладваць сьвежыя яйкі. На 21 дзень у гэтым інкубатары пачынаюць выходзіць кураняты.

Інкубатар выводзіць многа куранят, а гэтым самым дае гаспадарцы вялікі прыбытак.

У нас ужо ёсьць многа колгасаў, дзе разводзіцца праз інкубатары многа птушак.

Чым больш мы будзем мець птушак, тым больш будзе яец і мяса. Вось дзеля гэтага кожная гаспадарка (саўгас, колгас) павінны як мага больш разводзіць птушак праз інкубатары.

Дзеці, піонэры, вы павінны ўсе свае сілы аддаць гэтай рабоце—барацьбе за інкубатары, барацьбе за мяса.

**П-н.**

# НОВЫЯ ГУЛЬНІ



## Канчай

**Усе садзяцца кругам. Адзін з удзельнікаў бярэ якую-небудзь мяккую рэч (паясок, хустку, гальштук) і, кінуўшы гэта аднаму з тых, што сядзяць, выкрыквае пачаткі слоў, напрыклад „пра“, „піо“. Той, хто злавіў паясок, павінен зараз-жа знайсьці канчатак слова,—напрыклад „ца“, „нэр“, каб атрымалася цэлае слова.**

## Будзёнаўцы.

**Пярэдні запявае: „Мы — армія мільённая і пра нас“...**

**Астатнія, цьвёрда ступаючы і размахіваючы рукамі па-вайсковаму, ідуць за пярэднім і таксама сьпяваюць.**



**Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „Чырвоная Зьмена“**

Рэдактары: **Гайдукевіч, Якімовіч А.**

ЦАНА 18 кап.

# ВЯСЕЛЫ КУТОК



*Не паладзілі.*

### Упэўніў

Настаўнік (гаворыць па тэлефону).—Дык вы кажаце, што ваш Міхаська хворы, у школу ня прыдзе? Гм..., а хто гэта гаворыць?

Голас (стараецца адказваць груба).—Гэта мой тата...

### Тата даў

— Ты выпісаў „Іскры Ільліча“?

— Не.

— Чаму?

— Грошай няма.

— А цукеркі за што ты ўчора купляў?

— Мне тата грошы даў.

### Загадка

Кіт-вялікан
Пераплыў акіян,
Да берагу падплывае,
Вугаль глытае,
Возіць народ.
Завецца...?

### Апамятаўся

— Мама, ці ў чарніцы ёсьць ногі?

— Што гэта ты надумаўся, сынок? Вядома няма.

— Дык, значыцца, я замест чарніцы зьеў нейкую казюльку





Друкарня БДВ імя т. Сталіна. Заказ № 2685. 3.900 экз. Галоўлітбел № 3475.